У нумары: Як я пазнаёміўся з У. І. Леніным · Калі не хапае ведаў · У дапамогу настаўнікам




ОРГАН ГАЛОЎНАГА ПРАЎЛЕННЯ БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНАГА ТАВАРЫСТВА.

№ 16 (477) | ГОД X | 18 КРАСАВІКА 1965 г. | ЦАНА 60 гр.

## А. Карпюк узнагароджаны крыжам «Virtuti Militari»

Вядомы на Беласточчыне камандзір партызанскага атрада імя Кастуся Каліноўскага Аляксей Карпюк, які цяпер жыве ў Гродне, узнагароджаны высокай узнагародай нашай краіны крыжам «Virtuti Militari».

Узнагароду ўручыў пасол ПНР у Савецкім Саюзе Эдмунд Пшчулкоўскі.

Як мы ўжо паведамлялі ў маі г.г. пачнем друкаваць аповесць А. Карпюка «Пушчанская адысея». Будзе гэта гісторыя беластоцкіх партызан атрада імя К. Каліноўскага.

## Дружба ★ Брацтва ★ Супрацоўніцтва



8 красавіка г.г. у Калонным зале Савета Міністраў у Варшаве падпісан новы Дагавор аб дружбе, супрацоўніцтве і ўзаемнай дапамозе. На здымку гістарычны момант падпісання Дагавору. За сталом сядзяць (злева) Аляксей Касыгін, Леанід Брэжнеў, Уладзіслаў Гамулка і Юзэф Цыранкевіч.

# Плённая дружба

### Міхась Хмялеўскі — старшыня ГП БГКТ

Дагавор аб дружбе, узаемадапамозе і супрацоўніцтве паміж Польшчай і Савецкім Саюзам адзначыў паварот у польска - савецкіх адносінах. Яшчэ ў гісторыі Польшчы ніводзін падпісаны дагавор не даў такіх поўных гарантыі свабоды і незалежнасці, сілы да развіцця і росквіту краіны, як гэты дагавор, які быў падпісаны ў Маскве 21 красавіка 1945 года.

Усебаковая дапамога Савецкага Саюза дазволіла народнай Польшчы падняцца з руін і попелу, дазволіла небывалымі ў гісторыі тэмпамі развіваць эканоміку і культуру. 20 год, якія мінулі ад таго часу, выдалі багаты плён дружбы.

Як паслядоўнасць дагавору з кожным днём усё мацней і мацней замацоўваюцца таксама братнія сувязі паміж Беларускай Савецкай сацыялістычнай рэспублікай і Польскай Народнай рэспублікай. Гэтую братнюю сувязь і дапамогу моцна адчувае і беларускае насельніцтва ў Польшчы, а ў тым ліку і нашае Беларускае грамадска-культурнае таварыства. Зілюструем гэта хоць некаторымі прыкладамі.

Перш за ўсё неабходна падкрэсліць агромную дапамогу БССР у развіцці беларускага школьніцтва ў Польшчы. Не было пачаткова кваліфікаваных кадраў, якія маглі б пашырыць веды па беларускай мове, літаратуры і гісторыі для нашых настаўнікаў беларускай мовы на Беласточчыне. З гэтай мэтай Міністэрства асветы рэгулярна кожныя канікулы арганізавала спецыяльныя курсы, на якіх вялі заняткі выкладчыкі з Мінска. І так, напрыклад, у Сулеюўку ля Варшавы 70, а ў Медзышыне 80 беларускіх настаўнікаў слухала лекцый выкладчыкаў Мінскага педагагічнага інстытута — таварышаў Мікалая Гурскага і Васіля Тарасава.

Каб мець больш ведаў і ўдасканаліць сваё педагагічнае майстэрства Міністэрства асветы кожны год у час канікул кіруе настаўнікаў беларускай мовы з Беласточчыны на месячны курс у Мінск.

Арганізаваная кафедра беларускай філалогіі пры Варшаўскім універсітэце, а таксама беларуская філалогія пры Завочнай настаўніцкай студыі ў Беластоку не мела адкуль узяць педагогаў. І ў гэтым выпадку па просьбе Міністэрства вышэйшых школ на працягу чатырох гадоў вялі заняткі мовазнаўцы і літаратуразнаўцы, выкладчыкі з Савецкай Беларусі, пачаткова дацэнт Мікола Бірыла і кандыдат філалагічных навук Васіль Тарасаў, а пазней дацэнт Міхась Лазарук і кандыдат філалагічных навук Аркадзь Жураўскі.

Гэтыя вучоныя з Мінска многа раз бывалі і ў Галоўным праўленні БГКТ і рэдакцыі «Ніва» і заўсёды з адкрытаю душою, шчыра гаварылі з намі аб нашай працы, давалі каштоўныя парады. Бралі яны таксама ўдзел у семінарах літаратурнага аб'яднання «Белавежа», якое існуе пры ГП БГКТ, і сваімі заўвагамі і ацэнкамі паасобных твораў дапамаглі ў творчым росце нашых маладых і яшчэ нявопытных беларускіх літаратараў.

На беларускай філалогіі Настаўніцкай завочнай студыі ў Беластоку ў апошніх гадах чыталі лекцыі таксама прафесары з Мінска: Л. Шакун, Ольга Казлова, Ніл Гілевіч і Павал Шуба. Нашы настаўнікі цёпла ўспамінаюць савецкіх педагогаў, якія не толькі давалі веды аб мове і літаратуры, але адначасова вучылі іх, як трэба жыць і працаваць.

У 1957 годзе БГКТ шырока адзначала купалаўскія дні. На святкаванне прыехала ў Беласток дэлегацыя з Мінска. У склад яе ўваходзілі: Уладзіслава Луцэвіч — жонка Янкі Купалы, Мікола Ткачоў — пісьменнік і Вячэслаў Антошын — прадстаўнік Беларускага таварыства культурнай сувязі з заграніцай.

(Працяг на стар. 2)

## БЕЛАСТОЧЧЫНА У ЛЮСТЭРКУ

# ЛЁС НАРАЎКІ

### 3. Прыстанішча энергіі

Гадоў таму два або тры з'явіўся ў Нараўцы нейкі аптэкар. Пранюхаў відаць, што Прэзідыум ГРН якраз адрамантаваў прасторны будынак на аптэку і патрабуе знатака ад лекаў. Аптэкар з месца ўспыхнуў «святым» агнём дзеяння. Найперш прыдумаў наладзіць шумнае ўрачыстае адкрыццё аптэкі. Выманіў ад старшыні грамады шлюбныя дываны, якія ўпрыгожвалі кабінет ЗАГСУ, склікаў журналістаў, запрасіў нават кінахроніку. З'ехаліся прадстаўнікі ўлад. Потым усе гуртам хвалілі энергічнага аптэкара, а ён бушаваў тут, як арол сярод стада шэрых варон. І раптам недзе прапаў. Аказалася, што аптэкар гэты зусім не быў аптэкарам, а яго энергія — гэта толькі саламяны агонь, ад якога многа шуму і дыму, а карысці ніякай.

На шчасце, не ўсе людзі, якія вылучаюцца ў Нараўцы актыўнасцю, успыхваюць саламяным агнём. Вось настаўніца **Надзя Адамюк.** Ужо дзевяты год настаўнічае ў школе, у якой сама калісьці вучылася. Завочна закончыла беларускую філалогію ў Беластоцкай Настаўніцкай студыі. Цяпер у школе апякуецца гуртком польска - савецкай дружбы.

Шчыра любіць яна свае родныя мясціны. Хацела б як найбольш вестак аб даўнейшым і цяперашнім жыцці тутэйшых людзей пераказаць сваім вучням, і не толькі вучням. Гэтае высакароднае жаданне ў мінулым годзе перарадзілася ў незвычайна цэнную ідэю. **Настаўніца Надзя Адамюк задумала ў Нараўцы стварыць рэгіянальны музей народнай культуры.** Сябры па працы і кіраўнік школы Казімір Амільянчук шчыра яе падтрымалі. Экспанаты — сведкі мінулага часу прыносілі вучні, часам прывозілі іх бацькі. Знаходзілі іх у розных кутках сялянскіх сяліб і ў пасажных сундуках сваіх бабуль. Такім вось чынам знайшліся ў школе старыя **жорны, пасталы, лапці, ступа, каробкі, кашалкі, розная даўнейшая, пераважна даматканая вопратка і іншыя, аджыўшыя свой век, рэчы.**

Музей знойдзе прытулак у школьнай чытальні. Будзе ён агульнадаступны нават у час канікул, калі нараўкоўская школа пераўтвараецца ў пенсіянат для вучняў з далёкіх школ, якія прыязджаюць сюды на адпачынак.

(Працяг на стар. 4)



# ПРА ЛЕНІНА

## ★ Як адпачываў Ленін?

Ленін любіў прыроду, спорт, гульні і музыку. Любіў спеў і сам спяваў. Ездзіў на веласіпедзе і на каньках, любіў паляванне.

Калі адпачываў, стараўся як найбольш змучыць свае мускулы. Яго адпачынак быў рухлівы, актыўны.

У веласіпедных гонках Ленін быў заўсёды першым.

Зімою на рэчцы Ленін арганізаваў каток і збіраў сялянскіх дзяцей — бегаў з імі наперагонкі. Ленін лічыў, што чалавек павінен быць загартаваным і сільным.

## ★ Незвычайны партрэт

На Каўказе недалёка Пяцігорска — гара Машук. А на гэтай гары... партрэт выцесаны ў скале. **Партрэт Леніна.** Выцесаў яго Мікалай Шчуклін — па прафесіі будаўнічы, а прытым мастак — рысуе, піша вершы. Партрэт Леніна ў скале Шчуклін закончыў у 1925 годзе. З той пары на Машуку пад партрэтам столькі ўрачыстасцей адбылося. Месца сталася святыняй, залітай горным сонцам, сярод якога высіцца агромны партрэт Леніна. Фашысты стараліся ўсяляк знішчыць незвычайную скульптуру. Нават арудзію падцягнулі да гары, стралялі. А ў 1944 годзе сюды прыехаў Мікалай Шчуклін — вярнуў партрэту яго даўнюю сілу. Пад партрэтам з'явіліся яшчэ словы верша Шчукліна:

Портрет вождя враги пытались
И расстрелять и зачернить.
Они в невежестве не знали,
Что Ленин будет вечно жить,
Что держит ленинское знамя
Над миром
партии рука,
Что Ленин жив, что Ленин
с нами
Идет в грядущие века.

У 1960 годзе Пяцігорцы пад партрэтам у скале святкавалі 90-годдзе з дня нараджэння У. І. Леніна.

(а-вл)

## ★ Дакументальныя фільмы СССР

З дакументальнай серыі аб Леніне закончана два фільмы: «Тры вясны Леніна» рэжысёра Л. Крысці, а таксама «Старонкі несмяротнасці» І. Капаліна. Яны складаюць мантаж важнейшых дакументаў з жыцця Леніна. У рэалізацыі знаходзяцца далейшыя фільмы з гэтай серыі: «Ленін і І руская рэвалюцыя», «Ленін і І Сусветная вайна», «На чале абароны маладой Рэспублікі Саветаў».

Р. Кармэн працягвае работу над вялікім мантажным фільмам аб вайне — абапіраючыся на сцэнарый вядомага журналіста і пісьменніка С. Смірнова. Фільм будзе гатовы на XX гадавіну заканчэння вайны. Дзейнасці органаў бяспекі ў часы Ф. Дзяржынскага прысвячаецца фільм «Вечны агонь». Рыхтуецца таксама эпічны фільм аб развіцці СССР ад 1917 года, прысвечаны 50 гадавіне Кастрычніцкай рэвалюцыі.

(ліў)



## Навіны экрану

### «Пяты коннік Апакаліпсы»

Фільм прадукцыі чэхаславацкай. Расказвае аб часах гітлераўскай акупацыі ў Чэхаславакіі. Рэжысёрам з'яўляецца Збынак Брыных вядомы і здольны рэжысёр. Сам ён так гаворыць аб фільме:

«Бяру тэму акупацыі не з увагі на гісторыю, але таму, што ў сённяшні час міжнароднага напружання праблема людскіх паводзін як: геройства, баязлівасць, абыякавасць усё ж актуальная».

Арыгінальны загаловак фільма. У падсвядомасці кожнага з нас ёсць гэты пяты коннік — Страх. Страх адчуваюць людзі, якія ў нішто не вераць. Страх маюць змагары за свабоду. Страх перажываюць носьбіты зла.

А вось змест фільма:

Рэч дзеецца ў Празе ў 1941 годзе. Лекар — жыд, па прозвішчу Браун, пільнуе дабра вывезеных немцамі жыдоўскіх сем'яў. Да яго звяртаецца сусед Шыдляк і просіць вылечыць аднаго з дзеячоў падзямелля. Браун вельмі баіцца, аднак перамагае страх. Лечыць раненага. Усё гэта падгледзеў другі сусед Брауна, нямецкі даносчык Фонта. Калі з'яўляецца гестапа, раненага ўжо няма, забралі яго сябры. Лекар прызнаецца да ўсяго, ды сам труецца.

Гэта найлепшы фільм рэжысёра Брыныха. Зроблены ў 1964 годзе.

## Пражыўшы 70 год...

...прыкладны грамадзянін ЗША 6 год прасядзеў за сталом над талеркай са стравай, 24 гады праспаў, 5,5 год апранаўся і распранаўся, 3 гады правёў на пустых гутарках з суседзямі і знаёмымі, а толькі 6 месяцаў заняла яму рэлігія. Так прынамсі сцвярджае амерыканская статыстычная кантора. Яна таксама падае, што маладая амерыканка, пакуль выйдзе замуж, цалуе ў сярэднім 75 хлопцаў. Статыстычная кантора не падае, на жаль, колькі хлопцаў цалуе маладая амерыканка пасля шлюбу.

(а-вр)



**Парыжская паліцыя правяла следства 650 маладых жабракоў, якія пастаянна вялі жабрацка-гультайскае жыццё. Аказалася, што толькі 29 з іх жабравалі з прычыны беднасці. Рэшта займалася жабрацтвам для прыемнасці і... з нуды.**

**У нас таксама валочацца жабракі... (а-ся)**

## 600 літраў вады на 1 кг

Як вядома, трэба многа вады, каб вырасла буйная трава. Спецыялісты падлічылі, што на тое, **каб выпрадукаваць 1 кг сена неабходна 600 літраў вады.** Цяпер ужо ясна, чаму добрая сенажаць там, дзе многа вады.

Мала, але цікава

### МЫШЫ ЧЫСТЫЯ

Лабараторныя доследы паказалі, што мыш палавіну свайго жыцця прысвячае доглядУ за сабой.

А мы брыдзімся мышшу, што быццам бы брудная.



## Найсмачнейшыя грыбы... пячурыцы






Потым яму здалося, што рэшту ночы ён бачыў адзін і той жа сон. Са ўсіх бакоў яго абступілі нябачныя людзі, яны па чарзе выгаварвалі яго фальшывае імя: «Рукерт, Рукерт». Ён намагаўся па гучанні галасоў убачыць гэтых людзей, але яны былі нябачныя. І зноў за спіною, то аднекуль зверху раздавалася ўсё тое ж слова:

«Рукерт, Рукерт, Рукерт!»

— Рукерт, адчыніце! — раптам прагучэла ясна, галасна і ўжо наяве.

Дзяменцяў не паспеў сцяміць, што дзеецца, як дзверы з трэскам расчыніліся. Выламаны дзвярыны замок адляцеў да сцяны. У пакой з пісталетамі ў руках уварваліся чацвёра гестапаўцаў на чале з Крамергофам. Адзін з іх запаліў святло. Другі стаў у нагах Дзяменцява, накіраваўшы на яго пісталет. Дзяменцяў, не падымаючыся, са здзіўленнем глядзеў на іх.

— Канчайце, Рукерт, спектакль! Дзе ваша радыёстанцыя? — амаль дружалюбна сказаў Крамергоф і сеў на крэсла ў трох кроках ад ложка Дзяменцява, трымаючы накіраваны на яго пісталет.

— Я нічога не разумею, палкоўнік... Што тут дзеецца? Вытлумачце... — Дзяменцяў памалу, ляніва спусціў з ложка ногі, сеў і пачаў нетарапліва адзявацца.

71

— Выбачайце, што прымаю ў такім выглядзе. Я зараз адзенуся... — Дзяменцяў паглядзеў на гадзіннік. Было пяць гадзін раніцы.

Крамергоф махнуў рукой гестапаўцам:

— Шукайце!

Вобыск быў вельмі дакладны. Гестапаўцы падымалі паркет, прастуквалі сцены, распаролі мяккія крэслы. У гэты час Крамергоф не зводзіў вачэй і пісталета з Дзяменцява, які адзеўся і сядзеў на дыване, з усмешкай назіраючы за гестапаўцамі. Яго папрасілі перасесці на крэсла. Дыван распаролі, як і крэслы.

Гестапаўцы спынілі вобыск і чакальна глядзелі на Крамергофа.

— Абшукайце ўсю кватэру! — загадаў ён.

Гестапаўцы пайшлі ў пакоі гаспадыні.

— Дзе радыёстанцыя? — ціха, амаль даверліва спытаў Крамергоф.

— Якая радыёстанцыя? — Дзяменцяў рассмяяўся з абяззбройваючай шчырасцю. — Слова гонару, мне здаецца, што ўсё гэта дзеецца ўва сне.

— Тая самая радыёстанцыя, — усё так жа ціха працягваў Крамергоф, — з'яўленне якой у эфіры было зафіксіравана роўна праз пяць мінут пасля таго, як вы ўвайшлі ў сваю кватэру, і па сігналу якой напярэймы транспартаў, напэўна, ужо выляцелі рускія бамбардзіроўшчыкі.

— Самае дзікае недаразуменне з усіх, што я перажыў! — абурана сказаў Дзяменцяў.

Позірк Крамергофа спыніўся на раскрытым чамадане. Дзяменцяў замёр.

— Магчыма я падаў сігнал пры дапамозе бруднай бялізны... — Дзяменцяў кіўнуў на чамадан і засмяяўся. — Пасля таго, што здарылася, вам застаецца толькі пераканаць мяне ў гэтым.

72

Крамергоф нагою падсунуў да сябе чамадан і выкінуў з яго ўсе рэчы. Дно чамадана агалілася, Крамергоф нагнуўся і пастукаў па ім пальцамі. Відавочна, гук выклікаў у яго падазрэнне. Ён крыкнуў:

— Прашу сюды!

Усё апошняе вымяралася секундамі. Дзяменцяў сарваўся з крэсла, наводліў ударыў Крамергофа па віску, і той упаў на падлогу. Дзяменцяў скочыў да акна, спіной выбіў раму і апынуўся на двары.

У смелага салдата воінскае шчасце ў кішэні. Дзяменцяў упаў на ногі і, ледзь утрымаўшы раўнавагу, кінуўся за выступ дома.

І тут жа з акна загрымелі выстралы.

Бегчы на вуліцу нельга: там напэўна пастаўлены людзі гестапа.

Дзяменцяў загадзя вывучыў панадворак свайго дома. Ён ведаў, што ў левым яго вуглу, у вузкім праходзе паміж дамамі, ёсць плот, за якім пачынаецца суседні панадворак з выхадам на паралельную вуліцу.

Дзяменцяў пабег туды, але ў гэты самы час грымнулі два выстралы з супрацьлеглага баку панадворка. Пякучы боль ударыў Дзяменцява ў спіну.

У тунелі варот пачуліся галасы, тупат ботаў. Дзяменцяў працягваў бегчы. Ззаду безупынна стралялі, але ў ранішнім змроку гестапаўцы дрэнна бачылі ўцекача.

Вось і плот паміж дамамі. Дзяменцяў з разбегу ўхапіўся за верх плота, хацеў падцягнуцца, але страшны боль у плячах скінуў яго з плоту. Ён прысеў і пружынным скачком, памагаючы сабе левай рукой, узваліўся на плот і перакуўырнуўся на суседні панадворак. Ён выбег на паралельную вуліцу і пабег у цэнтр горада.

Чаму ён бег у цэнтр горада? Ці не лепш было бегчы на акраіну?

73

